# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 11 (785) ГОД XVI БЕЛАСТОК 14 САКАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.




*На ўрачыстым пленуме*

# • ДЛЯ ДАБРА АЙЧЫНЫ •

Пачатак быў у апошнюю нядзелю лютага 1956 года. Прайшло 15 год (180 месяцаў, 780 тыдняў і толькі 5480 дзён). Таксама ў апошнюю нядзелю лютага, але праз 15 год — у годзе 1971 адбылося ўрачыстае пасяджэнне Пленума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адбывалася яно ў будынку БГКТ у Беластоку на вуліцы Варшаўскай II.

Зала прыстроена паводле праекта мастака Стэфана Рыбі. Выстаўкі, якія паказваюць розныя галіны дзейнасці таварыства, яго людзей, яго актыў.

Якраз была, сапраўдная зімовая і снежная нядзеля. І праз снягі прабіраючыся, з'ехаліся з усіх куткоў Беластоцкай зямлі, з усіх аддзелаў БГКТ удзельнікі ўрачыстага пленума. Селі ля канферэнцыйных сталоў з жывымі кветкамі.

Прыбылі ганаровыя госці:

Р. Лазаровіч — намеснік старшыні Прэз. ВРН у Беластоку;

В. Канстанчук — кіраўнік адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку;

С. Кшыштошэк — дырэктар дэпартамента агульнаадукацыйнага школьніцтва Міністэрства асветы;

С. Ермак — намеснік начальніка ў грамадска-адміністрацыйным дэпартаменце Міністэрства ўнутраных спраў;

К. Дунай — сакратар ВК ЗСЛь у Беластоку;

Я. Блях — намеснік старшыні ВКЗЗ у Беластоку;

З. Дамброўскі — кіраўнік аддзела культуры Прэз. ВРН у Беластоку і старшыня Нацыянальнай камісіі КВ ПАРП;

С. Зялінскі — сакратар Нацыянальнай камісіі КВ ПАРП у Беластоку;

А. Рошка — кіраўнік аддзела ўнутраных спраў Прэз. ВРН у Беластоку;

З. Трыбульская — сакратар Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку;

В. Філіпкоўскі — начальнік Кураторыі школьнай акругі ў Беластоку;

М. Казак — старшыня Ваяводскага праўлення ЗМС у Беластоку;

К. Пятроўскі — старшыня Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку;

З. Камянкоўскі — камендант харугві ЗГП у Беластоку;

Я. Кавэрка — дырэктар Ваяводскага прадпрыемства „Рух" у Беластоку;

М. Каролька — старшыня ГП Украінскага таварыства;

Я. Петрашкевіч — сакратар ГП Літоўскага таварыства.

Адкрыў і вёў пленум сакратар ГП Янка Зенюк.

Пасля адкрыцця пленарнага пасяджэння да прэзідыяльнага стала падышлі вучні беларускага ліцэя ў Бельску і ад імя настаўнікаў і вучняў перадалі прысутным сардэчныя прывітанні. Затым сакратар ГП прачытаў прывітанні, якія прыйшлі ў адрас Таварыства з нагоды юбілея ад міністраў культуры і асветы, а таксама ад таварыства Дружбы і Культурных Сувязей з Зарубежнымі Краінамі з Мінска.

Міхась Хмялеўскі, старшыня ГП БГКТ, прачытаў даклад. Фрагменты яго падалі мы ў юбілейным нумары „Нівы", які ўсе ўдзельнікі пленума атрымалі пры ўваходзе.

Пасля даклада адбылася найбольш урачыстая частка пасяджэння: уручэнне адзначэнняў і ўзнагарод. З выпадку 15-годдзя БГКТ і «Нівы» ўлады прызналі перадавым дзеячам БГКТ многа адзначэнняў: дзяржаўных (пастановай Рады Дзяржавы Польскай Народнай Рэспублікі) было прызнана 5, „Заслужаных Беласточчыне" (пастановай Прэз. ВРН у Беластоку), — 5, адзнакі „Заслужаны дзеяч культуры" (пастановай міністра культуры і мастацтва) — 5, Залатых адзнак ЗМВ — 4, адзнак Янка Красіцкага — 5, залатых адзнак ТППР — 17, грашовых узнагарод кіраўніка аддзела культуры Прэз. ВРН у Беластоку — 4, грашовых узнагарод ГП БГКТ — 19, дыпломаў ГП БГКТ — 119, кніжных узнагарод — 2.

Гарадоцкі народны калектыў Ніны Мушынскай атрымаў калектыўную залатую ганаровую адзнаку ТППР.

Калектыў нашай рэдакцыі атрымаў ад Галоўнага праўлення ТППР „Дыплом за заслугі ў развіцці і ўмацоўванні польска-савецкай дружбы".

Спісак узнагароджаных змесцім у наступным нумары „Нівы".

Ад імя ўзнагароджаных з падзякай выступіў намеснік старшыні ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

Пасля перапынку адбылася дыскусія. Праходзіла яна ва ўрачыстым настроі. Выступаючыя падкрэслівалі ролю і значэнне БГКТ у актывізацыі грамадска-культурнага жыцця ваяводства. Выступалі — па чарзе: Юрка Туранок, Уладзіслаў Канстанчук, Алесь Барскі, Станіслаў Ермак, Збігнеў Дамброўскі, Мікалай Гайдук, Казімір Пятроўскі,

*(Працяг на стар. 3)*



*Фрагмент выстаўкі народнага мастацтва ў клубе.*



*Выступае Гарадок*



*Прывітанні ўрачыстаму пленуму ад Бельскага ліцэя перадалі вучні.*




Добрая традыцыя выпрацавана ў бельскім аддзеле БГКТ і аддзеле асветы і культуры ў Бельску ў галіне працы з настаўнікамі беларускай мовы.

22.I.1971 г. ужо трэці год падрад адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школ Бельскага павета. На гэтай канферэнцыі настаўнікі атрымалі практычныя ўказанні да працы на ўроках беларускай мовы і пазакласнай працы. Настаўнікі заслухалі даклады: «Выхаваўчая праца на ўроках беларускай мовы ў класах III—IV» — дакладчык мгр Мікалай Гайдук, аўтар падручнікаў да III—IV класаў, дырэктар беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску; «Як арганізаваць і абсталяваць кабінеты беларускай мовы» — дакладчык Вера Рышчук, кіраўнік секцыі беларускай мовы павятовага метадычнага цэнтра ў Бельску; «Пазакласная праца і праца ў асяроддзі, дзе навучаецца беларуская мова» — дакладчык Сцяпан Трафімюк, падінспектар аддзела асветы і культуры ў Бельску. Канферэнцыю вёў Марыян Татарчук — інспектар аддзела асветы і культуры ў Бельску. На канферэнцыі прысутнічалі візітатар кураторыі Беластоцкай школьнай акругі мгр Сцяпан Кэнска, кіраўнік секцыі беларускага школьніцтва акруговага метадычнага цэнтра ў Беластоку мгр Васіль Сакоўскі і кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ у Беластоку Сяргей Лукашук.

Пасля цікавых і вельмі карысных для практычнай дзейнасці настаўнікаў дакладаў у час дыскусіі настаўнікі выказалі пажаданні, каб як найхутчэй выйшлі з друку новыя падручнікі для II і V класаў. Асабліва ж вялікія цяжкасці маюць настаўнікі з навучаннем элементаў гісторыі Беларусі і ў сувязі з гэтым патрабуюць як найхутчэйшага выдання ПЗВС-ам адпаведнага падручніка. Настаўнікі падкрэслівалі, што ў апошнія гады дзеці ахвотна вучацца беларускай мове, таму, што большасць з іх збіраецца паступаць у Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску. Гэты ліцэй карыстаецца папулярнасцю сярод моладзі дзякуючы высокаму ўзроўню навучання і выхавання ў ім. Большасць яго абсальвентаў паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і не мае цяжкасцей у далейшай навуцы.

Добра было б, каб такія канферэнцыі адбыліся і ў іншых паветах.

*С. Лукашук*

Што як што, але спяваць беларуская моладзь заўсёды і любіла, і ўмела. Беларускія вёскі славіліся і ганарыліся прыгожай, вясёлай песняй. Усходнеславянскай песняй — беларускай, рускай, ці нават украінскай. Таму можа крыху здзівіць, што на мінулагодніх ваяводскіх элімінацыях у конкурсе на найлепшае выкананне савецкай песні спевакі з беларускага асяроддзя не занялі больш пачэсных месцаў. Зараз адбываецца падрыхтоўка да сёлетніх элімінацый гэтага конкурсу. Ці зноў паўторыцца мінулагодняя сітуацыя? І ў чым прычына слабога наогул выканання савецкай песні спевакамі з беларускіх вёсак?

Знаходжуся ў Аддзеле культуры ў Гайнаўцы і гутару з кіраўніком аддзела Мар'яй Ангельчык.

# АМАТАРЫ і КОНКУРСЫ

— Усё зводзіцца, — гаворыць пані Марыя, — да адпаведнай падрыхтоўкі самадзейнікаў. На жаль, у нас, у Гайнаўцы, няма каму адпаведна падрыхтаваць аматараў песні да выступлення на сцэне, асабліва на беластоцкай сцэне, дзе ёсць ужо акрэсленыя, адпаведна высокія патрабаванні.

У сувязі з конкурсам Аддзел культуры адкрыў у гайнаўскім доме культуры «Гурнік» кансультацыйны пункт для жадаючых прыняць удзел у конкурсе. Кіруе гэтым пунктам чыгуначнік. Знаецца ён на музыцы, умее іграць на фартэпіяна. Робіць, што можа, але кожнаму ясна, што можа ён не найбольш. Асвоіць крыху маладых спевакоў-аматараў з фартэпіянным акампаніяментам — і гэта, уласна кажучы, усё.

Нягледзячы на адсутнасць высокіх узнагарод у ваяводскіх элімінацыях, спевакі Гайнаўшчыны і ў гэтым годзе, як і ў мінулым, масава падрыхтоўваюцца да конкурсу. І маюць рацыю. Узнагароды, першыя месцы ў спаборніцтвах — усё гэта рэч, несумненна, важная. Але не найважнейшая. Найважнейшая рэч, каб спяваць. Каб стварайся магчыма шырокі рух аматараў песні. Рух такі ствараецца. Калі адбыліся мясцовыя элімінацыі савецкай песні публікі было столькі, што не магла ўсіх змясціць абшырная зала гайнаўскага «Гурніка». У гэтым годзе ў шэрагу мясцовасцей (Арэшкава, Дубіны, Ласінка, Чыжы, Кляшчэлі) адбыліся мясцовыя элімінацыі савецкай песні.

Падобна як з песняй мае павет свае клопаты з жывым мастацкім словам — дэкламацыяй. Як вядома, штогод у нас адбываецца агульнапольскі дэкламатарскі конкурс. На элімінацыях гэтага конкурсу павет наогул не займае найлепшага месца. Кажуць, што вясковым выканаўцам жывога мастацкага слова не хапае адпаведнай мастацкай падрыхтоўкі, знаёмства з сучаснымі сродкамі дэкламатарскай экспрэсіі.

Чым аднак з'яўляюцца гэтыя сучасныя сродкі дэкламатарскай экспрэсіі? Гэта проста пануючая ў акцёрскім асяроддзі мода на пафас або мода на адсутнасць пафасу, або на нейкія іншыя акцёрскія прыёмы. Калі акцёры самі ідуць па модзе — паўбяды. Горш аднак, калі патрабаванні акцёрскай моды пераносяцца недзе ў паветы, грамады і вёскі, калі патрабуюць дэкламацыі згодна з правіламі гэтай моды ад вясковай моладзі ў вясковых святліцах, ад вучняў восьмых класаў пачатковай школы, ад настаўнікаў нават, якія любяць жывое мастацкае слова, але не любяць сачыць за справамі акцёрскай моды.

На дыктатуру акцёрскай моды няма аднак рады. Ва ўсіх камісіях, журы, у кансультацыйных пунктах дэкламатарскага конкурсу — усюды экспертамі з'яўляюцца, рэч зразумелая, акцёры. Але і ў гэтым выпадку, так як у выпадку конкурсу песні, менш важнымі з'яўляюцца ўзнагароды і прызнанні, чым факт зацікаўлення жывым мастацкім словам вясковага асяроддзя, а асабліва вясковай моладзі.

*У. Паўлючук*

# РЫБАЛАЎСКІЯ САМАДЗЕЙНІКІ

Была субота. Вечар. У пабудаваным нядаўна вялікім школьным памяшканні сталі збірацца людзі. Старэйшыя і малодшыя. Яны перапоўнілі залу і з нецярпеннем чакаюць на сцэне сваіх аднавяскоўцаў, сваю моладзь. Адкрываецца занавес, і з прывітальным словам выступае мастацкі кіраўнік самадзейнікаў Валя Андрэюк. Артысты-аматары паказваюць п'есу Алеся Пальчэўскага «Роўнасць». Ролі выконваюць Ніна Ігнацюк, Віктар Нікалаюк, Віктар Ляўчук, Віктар Ігнацюк, Валя Нікалаюк, Ліда Ільяшук і Коля Добаш. Прысутным падабаецца п'еса. Смяюцца яны з паасобных маналогаў пастаноўкі. Пастаноўку хутка змяняе наступная «Алёша прыехаў» Івана Ісачанкі. Юра Леснік, Ірэна Харытанюк, Валя Нікалаюк, Ніна Ігнацюк і Люба Галубоўская добра спраўляюцца са сваімі ролямі. Дасканала іграе дзяўчыну з Украіны Ніна Ігнацюк.

Адчуваецца, што гледачы моцна ўзрушаны цікавымі сцэнкамі п'есы. Набліжаецца канец пастаноўкі. Гэтых самадзейнікаў змяняе наступная група, якая выступае з трагедыяй «Першы ўрок» Кастуся Губарэвіча. Галоўнымі героямі з'яўляюцца кіраўнік дзіцячага дома Гарэцкая і камандзір партызанскага атрада Ляскавец. Першую ролю выконвае Валя Андрэюк, а другую Янка Апалінскі. Змест п'есы да слёз хвалюючы. На высокім мастацкім узроўні іграе ролю немца Віктар Вішнеўскі, а партызанкі — Ніна Ігнацюк. Юрка Нікалаюк, Віця Лукашук, Юрка Леснік і Віця Нікалаюк таксама праявілі сябе як здольныя артысты-аматары.



*Каля 300 асоб прысутнічала на аматарскіх выступленнях.*



*Рыбалаўскія «Франкі»*

Але гэта яшчэ не ўсё. Яшчэ Валя Андрэюк выступіла з смешнымі гумарыстычнымі расказамі. Выступілі салісты Тоня Ільяшук і Ліда Ільяшук, квартэт: Ніна Ігнацюк, Іра Харытанюк, Лена Аляксеюк і Валя Аляксеюк. Але найбольш воплескаў атрымалі «Франкі» — Віця Ігнацюк, Віця Нікалаюк і Коля Вішнеўскі. Гэтае трыё назвалі «Франкамі» таму, што яны выконваюць таксама польскую песню «Ах, Франка, Франка».

Пасля мастацкіх выступленняў пачаліся танцы.

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

Наша вёска




Даўно мінулі тыя часы, калі саламяныя стрэхі, паваленыя платы сведчылі аб нецікавым лёсе вёскі Лявонавічы (Беластоцкі павет).

Зніклі саламяныя стрэхі, гумовыя шыны фурманак — «балёнаў» прыйшлі на месца жалезных калёс.

Уласна кажучы, вёска невялікая, у ёй усяго 55 гаспадарак. А на дадатак трэба сказаць, што іх колькасць змяншаецца з кожным годам — імкнецца моладзь у горад, а старыя людзі, не маючыя сілы працаваць на зямлі, перадаюць свае надзелы ахвотна ў дзяржаўны фонд зямлі.

А ўсё ж вёска радыкальна змяніла сваё аблічча. Калі адразу пасля вайны на вёсцы быў толькі адзін радыёпрыёмнік, які працаваў дзякуючы ўласнаму сілкаванню, дык цяпер, дзякуючы электрыфікацыі, радыёпрыёмнік ёсць амаль у кожнай сялянскай хаце.

Яшчэ ў 1966 годзе ў вёсцы было ўсяго 2 тэлевізары. Цяпер у Лявонавічах іх 11. Многія сяляне маюць матацыклы, аб веласіпедах ужо не хочуць нават чуць.

Вялікія змены адбыліся і ў структуры гаспадарак. Да 1966 года зямля сярэдняга селяніна, які меў прыблізна 6 гектараў, была раскінута ў 13-ці, а нават і больш месцах. Кавалкі зямлі мелі часта пры даўжыні 1500 метраў шырыню ўсяго 2-х метраў. Нельга было павышаць ураджайнасць чатырох асноўных збожжавых культур на такіх палосках.

Яшчэ горш было з жывёлагадоўляй. Калі раней цяжка было трымаць адну карову, дык пасля камасацыі зямлі ў 1966 г. жывёлагадоўля ўзрасла амаль у тры разы. І сёння жыхары Лявонавіч прадаюць у дзень 500 літраў малака, якое прымае малачарня ў Міхалове.

Карысць тут двухбаковая. Горад атрымлівае малако і малочныя прадукты, селянін — патрэбныя яму для развіцця гаспадаркі грошы.

Камасацыя спрыяе ўгнаенню зямлі мінеральнымі ўгнаеннямі. Сяляне пачалі прымяняць усё больш мінеральных угнаенняў у чыстым складзе. Да найбольш перадавых гаспадароў у вёсцы належаць Уладзімір Салавей, сын Юзэфа; Мікалай Салавей, сын Яна; Казімір Казбярук; Казімір Салавей, сын Антона; Эдвард Зубрэвіч; Юзэф Крупіцкі; Юзэф Грыка; Мікалай Хлябіч і шмат іншых. Сярэдні ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур у гэтых гаспадарках складае 22 цэнтнеры з гектара.

У 1970 годзе Уладзімір Салавей закупіў 991 кг мінеральных угнаенняў, Юзэф Крупіцкі — 1180 кг, Эдвард Зубрэвіч — 623 кг, Мікалай Хлябіч — 1115 кг, Мікалай Гогель — 649 кг. З'яўляецца гэта яшчэ адным прыкладам інтэнсіўнай хімізацыі сельскай гаспадаркі, поўнага зразумення карысці, якую прыносяць мінеральныя ўгнаенні. Раз назаўсёды ліквідаваны прымітыўны спосаб апрацоўкі зямлі. Няма на вёсцы селяніна, які б у перыяд палявых прац не карыстаўся паслугамі сельскагаспадарчага гуртка ў Шымках. Многія гаспадары маюць уласныя конныя сенакасілкі, аднак большасць хоча карыстацца самымі сучаснымі здабычамі тэхнікі.

Велізарныя змены адбыліся ў вясковым будаўніцтве. У 1965 годзе ў вёсцы выбух пажар. Згарэла 17 гаспадарак. Дзяржава дапамагла пацярпеўшым сялянам, дала ім пазыку і дапамагла купіць будаўляныя матэрыялы. На месцы спаленых драўляных будынкаў сталі сучасныя, мураваныя.

У вёсцы развіваецца культура. Апрача радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, сюды прыходзіць 37 экземпляраў газет і часопісаў. Многія сяляне чытаюць кнігі, пазычаныя ў мясцовым бібліятэчным пункце.

Усё тое, аб чым сяляне калісьці маглі толькі марыць, стала сёння рэчаіснасцю.

*Мікалай Гогель*

(Працяг са стар. 1)

# ДЛЯ ДАБРА АИЧЫНЫ

Януш Блях, Мікалай Каролька, Вацлаў Філіпкоўскі, Яўген Петрашкевіч.

Усе выступаючыя госці складалі юбілярам — БГКТ і „Ніве" — віншаванні ад імя сваіх арганізацый і ўстаноў, падкрэслівалі добрае супрацоўніцтва БГКТ з рознымі грамадска-культурнымі ўстановамі і жадалі далейшых поспехаў у працы для дабра і славы нашай Айчыны — Польскай Народнай Рэспублікі.

Пасля ўрачыстай і афіцыяльнай часткі адбылася юбілейная мастацкая частка. Адкрыў яе Алесь Барскі, які прачытаў уласны верш, прысвечаны юбілею 15-годдзя БГКТ. З уласным вершам выступіў таксама другі наш паэт Ян Чыквін. На юбілейнай урачыстасці ўпершыню выступіў хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад кіраўніцтвам Тэклі Вашчук. Паэтычная эстрада Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя прадставіла мантаж вершаў членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Гарадок даў поўную непаўторнага лірызму і прыгажосці складанку з уласнымі частушкамі, песнямі, дэкламацыяй. Бурай апладысментаў прынялі гледачы дасціпныя частушкі двух Нін — Мушынскай і Цыванюк пра 15 год таварыства. А якіх дэкламатараў Гарадок мае!

„Лявоніха" выступіла з сваёй новай гучнай праграмай — песні, танцы, музыка. Многа руху, добрая рытмічная секцыя. Здольны сатырык Зося Стаськевіч задэманстравала дасканала музычны верш на ўласную мелодыю і да ўласных слоў — юбілейную „Песню паэтаў". Словы гэтай песні апубліканы ў юбілейнай „Ніве".

Праграма мастацкай часткі была багатай і каляровай. Усім спадабалася.

*Вера Леўчук*
*Фота — Цаф — Сянько*

# ПРЫКЛАДНЫ ПІСЬМАНОСЕЦ

Больш 15 гадоў працуе пісьманосцам Міхась Каліцкі з Шымкаў (Беластоцкі павет). Абслугоўвае ён тры вёскі: Шымкі, Цісоўку і Буды. Даручае ён штодзень больш 30 экземпляраў «Газеты Беластоцкай», а таксама розныя пасылкі і пісьмы. Апрача «Газеты Беластоцкай», Міхась Каліцкі разносіць 18 экземпляраў «Грамады Рольнік Польскі», 8 экземпляраў «Нівы», 4 экземпляры «Пшыяцюлкі», 47 экземпляраў «Пломычкаў», 41 экземпляр «Сверчыка» і іншыя часопісы.

Пісьманосца М. Каліцкага любяць і паважаюць усе жыхары. (яц)

XV ГОД

# ЖЫВЕМ МЫ ДРУЖНА

Пасла Міхала Адамца застаў я ў яго сялянскай хаце, якая знаходзіцца на ўскраіне вёскі Сакі ў Гайнаўскім павеце. Пахіліўшы галаву над пішучай машынкай, ён крапатліва адбіваў літары нейкага тэксту.

— Перапісваю справаздачу аб працы нашай міжгуртковай машынна-трактарнай базы, — паясніў ён. — Мае пальцы хлебароба не прывыклі да гэтай працы. Лепш бы з плугам або і з трактарам справіўся б. Але прыедуць прадстаўнікі з павета, дык трэба, каб справаздача была чысценькая.

— Я да вас, таварыш пасол, у сувязі з 15-цігоддзем Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

— Так, сапраўды, гэта шмат часу.

— Што вы лічыце найбольш каштоўным, найбольш важным у дзейнасці Беларускага таварыства?

— Культурна-асветны і мастацкі самадзейны рух, які, наколькі мне вядома, даволі шырока разгортвае таварыства. Вось у нашай вёсцы ўжо разоў пяць пабывала беларуская „Лявоніха" і кожны раз яе выступленні выклікалі вялікае зацікаўленне. Нашы людзі вельмі любяць штосьці такое. Народныя калектывы напамінаюць нам жыццё нашых дзедаў-прадзедаў, якія сваю цяжкую долю і сваю рэдкую радасць адлюстравалі ў песнях. Забываючы пра іх жыццё, мы не ў сілах правідлова ацаніць наш сучасны быт. Дык народныя калектывы, такія як „Лявоніха", як праслаўлены калектыў з Гарадка, спаўняюць важную ролю ў грамадскім жыцці сучаснай вёскі на Беласточчыне.

Ці гэта значыць, што БГКТ павінна, паводле той думкі абмежаваць сваю дзейнасць толькі да культурна-асветных спраў?

— Я мяркую, што эканамічныя справы нашай вёскі шмат лепш ад Беларускага таварыства могуць вырашаць іншыя арганізацыі, а перш за ўсё сельскагаспадарчыя гурткі і прафесіянальная сельскагаспадарчая служба.

— Вы, наколькі мне вядома, з'яўляецеся старшынёй вясковага гуртка БГКТ у Саках.

— Так, выбралі мяне. Гадоў таму тры назад завітаў да нас сябра Дзун з Гайнаўкі, і пры яго дапамозе заснавалі мы ў сябе гурток БГКТ. Запісалася тады, здаецца, 8 чалавек. Толькі гэты гурток не змог неяк разгарнуць шырэйшай дзейнасці.

— Чаму?

— Перш за ўсё таму, што не хапіла энергічнага арганізатара, які шчыра заняўся б гэтай справай. Бачыце, мой свабодны ад працы час поўнасцю „паглынаюць" пасольскія і іншыя грамадскія абавязкі, а праўленне павятовага аддзела ў Гайнаўцы ў нічым нам не дапамагло. Затым у Саках няма ні клуба, ні святліцы, дзе можна было б праводзіць культурна-асветныя занияткі.

— У Саках мешанае, беларуска-польскае, насельніцтва. Як укладваецца між вамі сужыццё?

— Мы жывем дружна. Я не памятаю, каб калі-небудзь прычынай нейкай суседскай сваркі былі ў нас нацыянальныя справы. Адны з другімі сябруюць, ходзяць да сябе ў госці, звязваюцца сваяцтвам, жэняцца. Вось зусім нядаўна адзін наш трактарыст — паляк па нацыянальнасці — ажаніўся з беларускай дзяўчынай, а сястра маёй жонкі выйшла замуж за католіка. Не важна ж, хто якой нацыянальнасці, а важна хто які чалавек. Гэта асноўная рэч.

— У нас, — уключаецца жонка таварыша Адамца, — нават палякі вучаць у школе сваіх дзяцей па-беларуску. Праўда, Ёля? — звяртаецца яна да сваёй дачкі, вучаніцы сёмага класа сакоўскай пачатковай школы.

— Так, усе мы вучымся па-беларуску, — гаворыць Ёля.



— Па-беларускай мове яна ў нас выдатніца, — інфармуе бацька, а Ёля, як бы хацела зрабіць мне прыемнасць, бярэ ў рукі „Ніву" і, беспамылкова расстаўляючы націск, звонка чытае фрагмент артыкула. Затым яна гаворыць:

— Калі закончу пачатковую школу, хацела б вучыцца ў беларускім ліцэі. Беларускі ліцэй закончылі мой брат ды родная і дваюрадная сёстры.

— Дык бачыце, таварыш рэдактар, — гаворыць пасол Адамец, — свабодна расце ў нас маладое пакаленне, якому, нягледзячы на яго нацыянальнае паходжанне, даступныя ўсе нашы заваяванні і яно смела карыстаецца імі. Чатыры юнакі з нашай вёскі — а ў тым ліку і мой сын — вучацца зараз у вышэйшых школах, адзін — Юрка Дмітрук — з'яўляецца ўжо магістрам-інжынерам. Трэба, каб Беларускае таварыства і „Ніва" паказвалі гэта, бо гэта ж неадемная частка дасягненняў народнай улады.

*Віктар Рудчык*

## СПРАВЫ ПАЛІЧНАЎСКАЙ ГРАМАДЫ



*Вёска Палічна*

Са справамі грамады Палічна Гайнаўскага павета знаёмілі мяне I сакратар грамадскага камітэта ПАРП і аграном у адной асобе Мікалай Цімафеюк, сакратар ГРН — Генрык Кісляк і кіраўнічка грамадскай святліцы Валя Дзмітрук.

На тэрыторыі грамады знаходзіцца 10 вёсак і пражывае зараз 1402 жыхароў. Тэрытарыяльна грамада займае паверхню ў 7 тысяч гектараў. Ёсць тут 3639 га зямельных угоддзяў, 1100 га лясоў і аблогаў, 729 га пасбішч і лугоў.

У грамадзе налічваецца 348 гаспадарак. Мае яна тыпова сельскагаспадарчы характар. Зараз сяляне гадуюць 950 штук кароў, 1490 штук свіней і 1063 штукі авечак. Калі б умела загаспадарыць аблогі і так званыя дзікія пасбішчы, можна было б павялічыць кармавую базу, а, такім чынам, і жывёлагадоўлю.

У апошнія гады грамада перавыконвае гадавыя планы па куплі мінеральных угнаенняў, а таксама планы кантрактацыі 4-ох асноўных збожжавых культур. Уведзена раёнізацыя сырадэлі. Шкада, што сяляне не выкарыстоўваюць шанцаў, каб падзарабіць на вырошчванні гэтай высокааплачваемай сельскагаспадарчай культуры. На план 50 га закантрактавана яе тут усяго 30 га. А пераважаюць тут зямельныя ўгоддзі VI, а рэдка V класаў, і з-за таго немагчыма атрымаць высокіх ураджаяў збожжавых культур.

Зямельныя ўгоддзі ПФЗ займаюць 52 га, з якіх 20 га загаспадарваюць сельскагаспадарчыя гурткі. У мінулым годзе пачалі высяваць мінеральныя ўгнаенні комплексна.

На тэрыторыі грамады існуе 7 сельскагаспадарчых гурткоў, аб'ядноўваючых 163 членаў. Найлепш з іх дзейнічае сельгасгурток у Палічнай, які мае ў сваім распараджэнні 8 трактараў з камплектамі падвесных сельскагаспадарчых машын, з 4 абмалотачнымі агрэгатамі і іншымі машынамі. Вялікую ролю ў працы палічнаўскага сельгасгуртка адыгрывае сам прэзас Ян Петручук, чалавек энергічны і з гаспадарскім падыходам да гуртковых спраў. Як доказ, што гэты гурток добра працуе, прыгадаю факт выпрацавання ім 30 тысяч злотых чыстага даходу.

Пры сельскагаспадарчых гуртках дзейнічаюць жаночыя арганізацыі — гурткі вясковых гаспадынь (КГВ). Найлепш працуюць КГВ у Вярстоку, Горным Бродзе і ў Старыне. Арганізавалі яны ў сябе кулінарныя курсы, а таксама займаліся гадоўляй курэй.

Апрача адной клуба-святліцы ў Палічнай, у цэлай грамадзе няма іх больш. У клубе ёсць тэлевізар, радыёпрыёмнік, адаптар і гармонік (акардэон). Моладзь рыхтуе мастацкія часткі, а таксама арганізуе вечарыны з танцамі. Грамадскія ўлады пастанавілі правесці рамонт клуба, тады будзе ў ім яшчэ больш прыемна і ўтульна. Зараз будуецца раміза-святліца супрацьпажарнай каманды ў Вярстоку.

Грамадскія чыны. У апошнія гады, зраблена шмат. У 1968 годзе дзякуючы намаганням усіх сялян удалося адкрыць чыгуначны паўстанак. Пачакальню пабудавалі ў значнай меры грамадскім чынам. Не інакш узяліся за пабудову дарог на адрэзках: Палічна-Вярсток, з Апакі Вялікай у напрамку Гайнаўкі і з Палічнай — у напрамку Чаромухі. Апрача таго, будуецца дарога з Войнаўкі да Старыны. Укладзена тут грамадскіх чынаў на суму 172 тысячы злотых. Варта дадаць, што жыхары Старыны працавалі грамадскім чынам пры пабудове купальнага басейна пры мясцовай школе. Пабудавана яго коштам 70 тысяч злотых.

*Янка Цялушэцкі*
*Здымкі аўтара*



*Генрык Кісляк — (сакратар ГРН у Палічнай), Валя Дзмітрук (загадчыца клуба) і Мікалай Цімафеюк (сакратар КГ ПАРП).*

Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ

# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

## РУСКА-ПОЛЬСКІЯ СУВЯЗІ І КАНТАКТЫ (І ЧАСТКА)

Польская праблематыка ў старарускай літаратуры была з'явай частай. Нярэдка паяўлялася яна ў рэлігійнай літаратуры. Аднак у сувязі з тым, што характарыстыка Польшчы і каталіцызму мела ў гэтай літаратуры амаль выключна характар нападак і абвінавачванняў, не будзем тут займацца творамі рэлігійнага жанра. Затрымаемся тут выключна над вядомай ужо нам «Повесцю врэменных лет», у якой польская праблематыка была частым госцем.

Першыя інфармацыі аб Польшчы адносіліся ў «Повесці» да плямёнаў, на грунце якіх паўстала з цягам часу польская дзяржаўная арганізацыя. Аўтар «Повесці» некалькі разоў успамінае аб ляхах, якія жывуць над Віслай і над Варажскім (Балтыйскім) морам. Досыць доўга не было згоды паміж гісторыкамі адносна паходжання рускай назвы Польшчы і палякаў. У «Повесці» Польшча называецца Ляцкай зямлёй, палякі — ляхамі. Адны з даследчыкаў выводзілі гэтую назву ад латыні, другія ад характэрнага для Польшчы мужчынскага імя — Лех, трэція ад пэўнай катэгорыі сярэдневяковых вояў, званых «лехамі». У XIX ст. польскія вучоныя дайшлі да згоднага вываду, што ў Кіеўскай Русі прынялася назва ляхі для палякаў ад назвы аднаго з тагачасных польскіх плямёнаў лендзянаў.

Вяртаемся аднак да «Повесці». Яе аўтар вылічвае такія польскія плямёны, як паляне, памажане, мазаўшане, люцічы. Памылкова да польскіх адносіць таксама аўтар беларускія плямёны радзімічаў і вяцічаў.

Пад 981 годам аўтар змяшчае інфармацыю аб пераможным паходзе Уладзіміра Вялікага супраць палякаў на Перамышль і Чэрвенскія гародзішчы. «Пайшоў Уладзімір на ляхаў і заняў гародзішчы іх Перамышль, Чэрвень і іншыя гародзішчы, якія да сёння пад Руссю».

Значную ўвагу прысвяціў летапісец «Повесці» Баляславу Хробраму. Першы раз у запісе пад 996 годам гаворыцца аб згодным сужыцці Уладзіміра з Баляславам, з венгерскім каралём Стэфанам і з чэшскім Анджыхам. Сучасныя гісторыкі маюць нямала клопатаў з гэтым запісам. Вынікаюць яны з таго факту, што не ўсе вылічаныя князі княжылі ў 996 годзе. Некаторыя з іх дайшлі да ўлады пазней, і таму можам гаварыць аб гістарычных недакладнасцях у гэтай інфармацыі.

Другі раз у «Повесці» паяўляецца Баляслаў пад 1018 годам. Летапісец гаворыць аб паходзе Баляслава на Русь з мэтай пасадзіць на кіеўскі трон свайго зяця рускага князя Святаполка. Вобраз Баляслава тут яскравы і каларыстычны. Аўтар рысуе сцэнку над Бугам, дзе сустрэліся рускія і польскія войскі. Згодна з тагачаснай модай войска старалася абразіць словамі праціўніка. Рускі ваявода крычыць Баляславу: «Праб'ем табе кап'ём трыбух твой тлусты». Наогул аднак сустракаемся тут з станоўчай характарыстыкай Баляслава. Паслухайма летапісца: «Бо быў Баляслаў вялізны і цяжкі, так што і на кані сядзеў ледзьве, але быў талковы» (смыслен).

Летапісец апісаў перамогі Баляслава над рускімі войскамі, захапленне імі Кіева і асаджэнне на кіеўскім троне Святаполка. Урэшце, «Повесць» прадстаўляе канфлікт паміж Баляславам і Святаполкам, які быццам бы выразаў польскія асады ў рускіх гарадзішчах і змусіў Баляслава пакінуць рускую зямлю. Многія з сучасных гісторыкаў адносяцца крытычна да гэтых звестак у «Повесці». Вучоныя гэтыя пішуць, што, мабыць, рускі летапісец пераблытаў Баляслава Хробрага з Баляславам Смелым, якому не ўдаўся адзін з паходаў у Русь.

Апошні, трэці запіс, звязаны з Баляславам, адносіцца да смерці польскага караля, якая, паводле летапісца, наступіла ў 1030 годзе. «Таго ж часу памёр Баляслаў Вялікі ў ляхах». Трэба сказаць, што і тут летапісец памыліўся на пяць гадоў. Наогул адносіны рускага летапісца да Баляслава даволі прыхільныя. Аўтар бадай што ні разу не называе яго «акаянным». Затое словам гэтым часта ўгашчае Святаполка. Можна думаць, што асуджае ён Святаполка: «Калі Баляслаў сядзеў у Кіеве, акаянны Святаполк сказаў: якія толькі ёсць ляхі ў нашых гарадзішчах, забівайце іх». З тэксту відаць, што летапісец крытычна ацэньвае пастунак Святаполка. Аб сімпатыі рускага летапісца да Баляслава можам гаварыць і на той падставе, што ён прамаўчаў апісаны польскім і нямецкім летапісцамі факт гвалту і знеслаўлення Баляславам сястры Яраслава Прэдславы. Факт гэты апісаны таксама і ў некаторых рускіх летапісах, у якіх гаворыцца, што, адступаючы з Кіева, Баляслаў «павалок» за сабой і зганьбленую Прэдславу. Чым

# СЛОВА ПРА ВАЛЕРЫЯ ВРУБЛЕЎСКАГА

Чым была Парыжская Камуна? Найбольшыя гісторыкі не знайшлі адназначнага адказу на гэтае пытанне. Бо такога адказу і няма. Парыжская Камуна была з'явай шырокай і шматграннай. Была зрывам нацыянальным, патрыятычным і рэспубліканскім. Была бунтам, але бунтам супраць зла і несправядлівасці, за свабоду народаў. Камуна была вайной за вызваленне ўсіх народаў. У радах яе змагаліся найлепшыя сыны з усяе Еўропы. Камуна была рэвалюцыяй, першай пралетарскай рэвалюцыяй. Камуна абвяшчала: «цяперашняя рэвалюцыя з'яўляецца канцом старога свету...» і дадайма — нарадзінамі новага свету. Ад яе пачынаецца бурлівае жыццё і перамога еўрапейскага навуковага сацыялізма. Была Камуна дзвярыма, праз якія многія змагары дэмакратыі і рэспубліканцы ўвайшлі ў сацыялізм.

Адзін з камунараў (Манон) пісаў: «Камуна — гэта ўзброеная свабода». Сапраўды, ад дзён, ад 72 дзён (18. III. — 28. V. 1871) існавання Камуны ў Парыжы ясным стала, што свабоду можа здабыць працоўны народ дарогай барацьбы.

Калі гаворым, што ўсе нацыі змагаліся ў Камуне за свабоду сваю і народаў, то сярод іх найбольшай славай і адвагай адзначаліся выхадцы з польскіх зямель і ў прыватнасці тут назваць хочам Валерыя Врублеўскага — генерала Камуны, таго, які апошні зышоў са сваім 101 батальёнам з парыжскіх барыкад.

Пасля бурлівага далейшага жыцця і працы ў першым Інтэрнацыянале, пасля супрацоўніцтва з Марксам, Энгельсам, Лаўровым, Лісагарам (таксама камунар), пражыўшы 72 гады, памёр Валерый Врублеўскі ў Парыжы ў 1908 годзе, пахаваны быў пры ўдзеле велізарнага натоўпу на парыжскім могільніку на Пер Ляшэ пад «мурам камунараў», бо там хацеў спачыць побач сваіх сяброў-салдатаў Камуны, загінуўшых у крывавыя дні 1871 года. А парыжане паставілі яму помнік і напісалі «Гераічнаму сыну Польшчы, генералу Парыжскай Камуны».

Валерый Врублеўскі — настаўнік лясной школы ў Саколцы, арганізатар гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, якая ахоплівала і цяперашнюю Беласточчыну (першую бітву з царскімі сатрапамі выйграў Врублеўскі 28. IV. 1863 года пад Валіламі), паўстанец 1863 года, камандуючы войскамі чырвоных на Гродзеншчыне і Беласточчыне ў студзеньскім паўстанні, прыяцель і памочнік Кастуся Каліноўскага, сааўтар «Мужыцкай праўды» — вось кароткая гісторыя чалавека-героя Беластоцкай зямлі да часу, калі стаў ён героем Еўропы.

Гэты першы этап жыцця і гісторыі В. Врублеўскага не менш цікавы, чым другі — парыжскі і еўрапейскі. Нарадзіўся 27 снежня 1836 года ў Лідскім павеце. Сям'я Врублеўскіх у XVIII стагоддзі (100 год да нараджэння Валерыя) перайшла пад Ліду з вёскі Врублева ў Ломжынскім павеце. Врублеўскія ўраслі ў новае асяроддзе і за сто год моцна звязаліся з новай зямлёй і яе людзьмі.

Гісторыкі падкрэсліваюць цікавыя культурна-псіхічныя асаблівасці вялікх людзей, народжаных на так званых крэсах, людзей тыпу «паляка — ліцвіна» (ліцвінам гістарычна акрэслівалі таксама беларуса). Валерый Врублеўскі належаў да такога тыпу людзей. Згоднае сужыццё ўсіх народаў, насяляючых усходнія землі даўняй Рэчыпаспалітай, было ідэяй многіх пакаленняў Врублеўскіх.

(Працяг на стар. 6).

# ПАЗАШКОЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ

Яшчэ ў лістападзе 1968 года кураторыя школьнай акругі, Аддзел культуры Прэзідыума ВРН і Ваяводская камісія прафсаюзаў падпісалі пагадненне ў справе садзейнічання ў галіне пазашкольнага выхавання моладзі.

Тры ваяводскія ўстановы пастанавілі, што падначаленыя ім установы, якія вядуць пазашкольныя формы выхаваўчай працы з дзяцьмі і моладдзю, будуць супольна арганізоўваць цікавейшыя формы выхаваўчай працы, супрацоўнічаць са школамі ў галіне набору ўдзельнікаў да сваіх пляцовак, а таксама абмяркоўваць напрамкі і формы выхаваўчага ўплыву, даваць магчымасць школьнай моладзі карыстацца святліцамі, клубамі, стадыёнамі і т. п.

Кожны год павятовыя аддзелы асветы склікаюць нарады, на якіх апрацоўваецца праграма пазашкольнай выхаваўчай дзейнасці сярод дзяцей і моладзі. З такой праграмай на 1970/71 навучальны год пазнаёміў нас Мікалай Якубюк, школьны падінспектар у аддзеле асветы ў Бельску.

Дзеля аднолітага выхаваўчага ўздзейнічання на дзяцей і моладзь культурна-асветныя пляцоўкі, як клубы гаспадара, «Рух», святліцы, налажваюць сціслае супрацоўніцтва са школай. У рамках гэтага супрацоўніцтва культурна-асветная пляцоўка і школа ўстанаўліваюць патрэбы асяроддзя ў галіне выхавання і апекі над дзяцьмі. У мінулым годзе ў Бельскім павеце была вытыпавана 31 школа, дзе мелі весці пазашкольную выхаваўчую дзейнасць. У гэтым годзе, апрача гэтых 31 школ вядучых, усе школы ў павеце павінны ўключыцца ў гэтую форму дзейнасці.

Якія напрамкі праграмнай дзейнасці?

Асноўная ўвага звернута на развіццё патрыятычных і інтэрнацыянальных пачуццяў моладзі. Надалей выкарыстоўваецца тэматыка, звязаная з 100-ай гадавінай нараджэння У. І. Леніна, Міжнародным годам асветы, 100-ай гадавінай Парыжскай камуны, і, зразумела, 25-годдзем ПНР. Апрача форм працы, якія меліся ў мінулым годзе, асобае месца зоймуць палітэхнічныя заняткі. Пры ўсіх школах і іншых пляцоўках к. о., якія маюць толькі магчымасці і ўмовы, павінны быць арганізаваны гурткі тэхнічнага зацікаўлення. Асаблівую ўвагу звяртаюць на ракетнае, авіяцыйнае і аўтамабільнае мадэлярства, урбаністычнае мадэлярства з галіны прамысловага, гарадскога і вясковага будаўніцтва, на фатаграфіку, радыётэхніку, электратэхніку і мастацкае мадэлярства. Зразумела, справы палітэхнічнага выхавання вырашаюцца дзякуючы розным мерапрыемствам, звязаным са справамі тэхнікі: сустрэчам з людзьмі навукі і тэхнікі (напрыклад, з перадавікамі працы), арганізацыі вечарын цікавых ведаў і тэхнікі, конкурсаў, экскурсій на прадпрыемствы і фабрыкі.

А. К.

вытлумачыць «ліберальныя» адносіны летапісца «Повесці» да Баляслава, у той час, калі ўсіх іншых праціўнікаў Русі акрэслівае ён найгоршымі эпітэтамі? Адзін з сучасных савецкіх гісторыкаў Уладзімір Каралюк думае, што «пахвальны» наогул тон у апісаннях польскага караля вынікае з таго факту, што рускаму летапісцу была вядомая адна з польскіх пахвальных легенд аб Баляславе і што элементы гэтай легенды ўключыў ён у сваю «Повесць».

Услед за інфармацыяй аб смерці Баляслава Хробрага аўтар «Повесці» гаворыць, што ў 1030 годзе ў Польшчы быў мяцеж: «Людзі паўстаўшы пазабівалі біскупаў, і папоў, і баяраў сваіх, і быў у іх бунт». Некаторыя з гісторыкаў гавораць аб гістарычнай недакладнасці ў гэтым паведамленні. Паводле іх антыфеадальны бунт меў месца ў 1037—38 гадах пры панаванні Казіміра Аднавіцеля. Іншыя аднак падтрымліваюць аўтара «Повесці», даводзячы, што бунт быў аднак і ў 1030—31 гадах, і што ў выніку яго прымушаны быў уцякаць з Польшчы Мешка II.

Пад 1031 годам у «Повесці» апісаны паход князя Яраслава з братам Мсціславам у Польшчу. У выніку гэтага пахода былі адабраны палякам Чэрвенскія гародзішчы і ўзята многа палонных.

# У НАРАЎСКІМ ПРАДШКОЛЛІ

Прадшколле ў асадзе Нараўка, Гайнаўскага павета, заснавалася больш дваццаці гадоў таму назад. Ужо дваццаць гадоў працуе ў ім загадчыца пані Стэфанія Грыка.

Зараз у прадшколле ходзіць 35 дзяцей з Нараўкі, Стачка, Свінарыяў і Міклашэва. Заняткі ў прадшколлі адбываюцца на працягу дзевяці гадзін. Выхавацельніца пані Марыя Панькоўская развучвае са сваімі падапечнымі песні, вершы, гульні і скетчы. Апрача таго, дзеці тут займаюцца гімнастыкай, выконваюць розныя фігуркі і прадметы са штучнай матэрыі, глядзяць казкі з каляровых дыяфільмаў, ходзяць на экскурсіі па ваколіцы і г. д. У мінулым годзе з нагоды Дня настаўніка дзеці зрабілі са штучнай матэрыі арыгінальныя віншавальныя пісьмы.

— У пачатку г. г. адбылася ў нашым прадшколлі, — кажа кіраўнічка Грыка, — навагодняя ёлка. — Дзецям падрыхтавалі мы так званыя пачкі з камплектамі гульняў і ласункамі, а таксама арганізавалі латарэю. Пасля мастацкай часткі дзеці гулялі пад гукі аркестра.

— Я хацела б сказаць, — дадае пані Грыка, — што добра працуе наш бацькоўскі камітэт. — Бацькі арганізавалі так званыя дахадовыя забавы ў будынку кіно „Лес", а за сабраныя грошы закупілі для прадшколля ляжакі і шмат камплектаў розных дзіцячых настольных гульняў, а таксама конікаў, самаходзікаў і г. д. Варта, думаю, сказаць яшчэ і аб тым, што ў час пільных палявых работ арганізуем мы ў сябе дзіцячыя яслі і дзяцінцы. Дапамагае нам пры гэтым Таварыства прыяцеляў дзяцей (ТПД).

*Янка Цялушэцкі*

**БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ"**

**ЯНКА МАУР**

**ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ**

*Адрэж па лініі, назначанай пунктырам, зрабі дзірку ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвай старонкі на дроцікі або шнурочак.*

89.

— Чаго нам гэтак сядзець? Тэрмін жа яшчэ заўтра. Не спадзяваўся і Мірон, што сёння прыйдуць, але ўсё-такі мільгала думка: а што, калі ўжо ідуць?

— Пачакаем яшчэ гадзіны са дзве і тады выйдзем.

Выседзелі гэтыя гадзіны і вылезлі. І неяк несвядома абодва адчулі задавальненне, што бандыты не прыйшлі: усё-ткі далей адсунуўся непрыемны час спаткання. Рэшту дня скарысталі, каб «папасвіцца», хоць і ўвесь час адчувалі сябе трывожна.

Назбіралі крыху грыбоў і пайшлі «на кухню», як казаў Віктар. Там згатавалі свае грыбы, падвячэралі і засталіся нанач каля вогнішча.

Ледзь золак яны былі ўжо на сваім назіральным пункце. Зноў пачалося нуднае і напружанае чаканне. Зноў ішлі гадзіна за гадзінай, а ніхто не з'яўляўся. Цяпер яны ўжо не адважыліся пакінуць сваё месца сярод дня і даседзелі да вечара.

— Ах, каб хутчэй перастралялі гэтых бандытаў! — сказаў Віктар, вылазячы з засады.

— Што ты гаворыш?! — з жартаўлівым жахам крыкнуў Мірон. — Калі іх цяпер расстраляюць, то мы павінны будзем сядзець да зімы!

— Выбачай, забыўся, — засмяяўся Віктар. — Хай тады крыху пачакаюць. Але ж гэткае сядзенне горш за самую цяжкую працу! Пойдзем хоць чаю пап'ём. Вось, кажуць, бруснічнік можна ўжываць замест чаю.

— Гэта будзе вельмі дарэчы, — згадзіўся Мірон, і яны пачалі збіраць бруснічнік.

Але праз некалькі хвілін Мірон прыпыніўся і пачаў уважліва разглядаць сабраныя ім расліны.

— Слухай! — прамовіў ён нарэшце. — Гэта ж не бруснічнік!

— Чаму?

— Бачыш, вось з ніжняга боку ліста выціснута сетка, не такая, як у бруснічніку, ды і сцябло святлейшае.

— Па гэткіх дробных адзнаках судзіць нельга, — недаверліва сказаў Віктар.

— Шкада, што ён яшчэ не цвіце, тады можна было б знайсці маленькую розніцу ў кветках. А каб былі ягады, тады ўжо зусім нельга было б памыліцца. Ягады ўсярэдзіне маюць нібы муку, таму і завецца гэтая расліна мучніцай. Яна вельмі каштоўная і дае розныя лекі, чорную фарбу і дубінны матэрыял для апрацоўкі скур.

— Калі так, я цяпер гатоў шчыра шанаваць цябе і тваю батаніку. Вось каб напіліся гэткага чаю! Пэўна здубянелі б. Давай лепш наломім маліннiку. Гэта будзе карысней.

— Можна знайсці і сапраўднага бруснічніку.

— А няхай яго ліха! Зноў натрапім на якую мучніцу. Давай лепш простага малінніку.

Вярнуліся на сваю «кухню», выпілі чаю, згатаванага ў бляшанцы.

— Добры чай! — пахваліў Мірон. — Шкада толькі, што мёду больш няма.

91.

заў Віктар. — А калі іх злавілі ўсіх, дык могуць і ніколі не прыйсці.

Пачуўся хруст. Хлопцы зноў напружыліся, зноў з'явілася надзея. Але гэта праціскаўся праз зараснікі дзік. Цераз палянку было відаць, як ён спакойна і павольна капашыўся ў балоце.

— Вось добра было б стрэліць у яго! — заблішчаў вачыма Віктар. — Напэўна трапілі б. І мяса свежае было б.

Засвярбелі рукі і ў Мірона. Што будзе, калі кантрабандысты не прыйдуць? Тады давядзецца яшчэ горш галадаць, а між тым яны могуць зараз назапасіць мяса.

Але нарэшце ён пачаў даводзіць Віктару, што гэта будзе надта рызыкоўна:

— Ці можам мы напэўна сказаць, што яны не прыйдуць? Не. Ну, а калі прыйдуць, то мы загінем напэўна. І стрэл могуць пачуць, і сляды не паспеем знішчыць.

Дзік тым часам схаваўся за дрэвамі.

А ўначы, каля вогнішча, як яны шкадавалі, што не выкарысталі магчымасці! Яны паспелі б ужо разабраць і схаваць дзіка, былі б забяспечаны свежым мясам. А цяпер што будзе?

— Ох, ужо гэтая разумная асцярожнасць! — са злоснай насмешкаю сказаў Віктар.

Мірон засаромеўся. Ён адчуваў, што перамудрыў. Але, каб абараніць сябе, перайшоў у наступ:

— А скажы шчыра: ці мог ты паручыцца, што яны сёння ані ў якім разе не прыйдуць?

— Вядома, паручыцца ніхто не можа, але...

— Пачакай. Значыць, можна было думаць, што яны прыйдуць?

— Ну, можна.

— А ты ведаеш, чым пагражала гэтая магчымасць?

— Ну, ведаю.

— Дык вось што: маленькая магчымасць загінуць — сур'ёзней за вялікую магчымасць пад'есці.

— Але ж у нас ёсць рэвальверы! — не здаваўся Віктар.

— А можа, там будзе дзесяць стрэльбаў? Рэвальверы спатрэбяцца тады, калі не будзе чаго іншага рабіць.

Віктар замаўчаў.

## XXII

**«Слон». — Агіднае забойства. — Бандыты з палоннікам. — Падазрэнне бандытаў. — Допыт. — Ваенныя аперацыі. — Перамога.**

Так яны правялі ў чаканні чатыры дні. І гэтыя дні здаліся ім самымі доўгімі і самымі пакутнымі за ўвесь час іх жыцця на востраве. Яны праходзілі ў бяздзейнасці, а гэта і ёсць самая горшая пакута для жывога

90.

— Гэта яшчэ паўбяды, — сказаў Віктар, — але вось мяса наша пачынае псавацца, хоць і печанае. Заўтра яшчэ сяк так, а паслязаўтра будзе ўжо зусім дрэннае.

— А сушанае?

— Сушанае ўсярэдзіне не высахла.

— А ты не цягай заўсёды за сабой, а павесь тут. Зноў правялі ноч каля вогнішча.

Трэці дзень прайшоў гэтак жа, як і папярэднія два, толькі напружанасць так змарыла іх, што абодва паснулі як забітыя. Спалі смачна да самага вечара.

Першы прачнуўся Мірон. Схамянуўся, ускочыў, нават спачатку не пазнаў, дзе ён і што з ім. Віктар хроп так, што чуваць было па ўсім лесе.

— Гэй ты, вартаўнік! — штурхнуў яго пад бок Мірон.

— Га? Што? — усхапіўся той.

— Ці ведаеш ты, што хроп на ўвесь лес? Нашы госці на тым баку балота пачулі.

— А ты?

— І я таксама спаў. Гэта ж вар'яцтва! Нас маглі зарэзаць, як куранят.

— Я баюся, што яны, праклятыя, ніколі не прыйдуць, — пазяхаючы, прамовіў Віктар.

— А ўсё-такі рызыкаваць нельга. Другі раз будзем спаць па чарзе.

І гэты дзень мінуў. І другі. І яшчэ адзін. І яшчэ...

Хлопцам было вельмі цяжка цярпець. Мяса псавалася ўсё болей і болей. А «пасвіцца» ўдзень не было як: трэба было сядзець і пільнаваць. Калі нават вылазілі да баброў па ваду, то ўсё здавалася, што вось іх заўважаць. Адна ўцеха ды ратунак ад гнілога мяса — гарачы чай уночы.

З кожным днём напружанасць узмацнялася; ад кожнага трэску і шолаху хлопцы ўздрыгвалі, нібы ад электрычнай іскры. Гэтае безупыннае напружанне так знервавала хлопцаў, што яны зусім страцілі сон, зрабіліся панурымі і злоснымі. Усё гэта, разам з дрэнным харчаваннем і сядзеннем на месцы аслабіла іх так, што ў іх па чарзе кружылася галава, цямнела ў вачах, дрыжалі ногі. Папярэднія дні здаваліся ім ужо шчаслівымі ў параўнанні з цяперашнімі.

Часам хлопцам пачынала здавацца, што бандыты ўжо блізка. Яны нават чулі тупат ног і галасы. А праз хвіліну выяўляўся падман і прыходзіла перакананне, што сядзяць яны тут дарэмна, што ніхто і не думае сюды ісці.

— А можа, іх ужо злавілі і пасадзілі ў турму? — сумна казаў Віктар.

— Усё можа быць, — уздыхнуў Мірон.

Мусіць, сваякі бандытаў гэтак не баяліся за іхняе жыццё, як нашы хлопцы.

Але ж павінен хто-небудзь прыйсці па тавар? — разважаў Мірон. — Не могуць жа яны пакінуць сваё дабро.

— Могуць прыйсці і ўзімку, і на другі год, — адка-

92.

чалавека. На працягу дня яны, вядома, выходзілі з сваёй засады, але асцярожна, тулячыся ды азіраючыся, каб іх не маглі ўбачыць здалёк.

Такі напружаны перапынак быў не лепш за сядзенне і чаканне.

Падвечар ішлі начаваць у пушчу да свайго вогнішча, спалі зусім не так добра, як у будане, а раніцою вярталіся на сваю «службу». І ўсё часцей задавалі сабе пытанні: «А што, калі яны зусім не прыйдуць? Або прыйдуць праз многа тыдняў? Няўжо ўвесь гэты час так сядзець? Неўзабаве скончацца рэшткі сушанага мяса, а тады што?»

У такім настроі прыйшлі яны на варту і ў пяты дзень раніцою. А праз паўгадзіны пачулі нейкі тупат. Ішоў ён з таго боку, адкуль павінны былі з'явіцца «госці». У хлопцаў моцна-моцна закалаціліся сэрцы. Тупат набліжаўся, цяжкі, глухі; часам чуўся гучны трэск вялікай галіны. Але бачыць, хто ідзе, нельга было.

— Або атрад бандытаў, або слон! — прашаптаў Віктар.

Вось ужо нешта мільгае між дрэў, чырвонае. Усё выразней, выразней...

— Зубр! — у адзін голас крыкнулі хлопцы.

Нейкі ўрачысты настрой ахапіў таварышаў. Яны бачылі жывога зубра, якіх у межах Савецкай Беларусі ўжо няма. Перад 1914 годам у Белавежскай пушчы было яшчэ 400 зуброў, але за час вайны з іх засталося ўсяго толькі каля 20, ды і тых немцы вывезлі да сябе.

— Якім жа чынам ён трапіў сюды? — дзівіўся Мірон.

— А ты не памятаеш, як некалькі часу назад пісалі ў нашых газетах, што ў нас бачылі аднаго зубра? Кажуць, што ён перабег да нас з Польшчы. Белавежскую пушчу польскія паны прадалі англічанам, і тыя сякуць і вывозяць лес. Трэба думаць, што немцы не паспелі вылавіць усіх зуброў да аднаго. Мусіць, хоць адзін застаўся. І вось цяпер, калі пачалі высякаць яго родную пушчу, ён і ўцёк да нас, дзе лес гэтак не нішчаць.

— Я гэта чытаў, але пасля таго больш нічога не было чуваць аб ім.

— І вось ён перад табою. Не дзіва, што яго тут ніхто не бачыў.

Магутны звер ішоў неяк трывожна. То спыніцца, то пачне нагамі рыць зямлю, то схіліць сваю галаву і пачне сапці. Плечы яго здаваліся нейкай скалой, за якой хавалася рэшта цела. Горб не толькі не шкодзіў, але, здавалася, упрыгожваў яго. Хлопцы ўявілі сабе, як павінен быў адчуваць сябе гэты звер, адзін, без сям'і і таварышаў, далёка ад сваёй радзімы.

— Апошні зубр! — прашаптаў Мірон.

— Апошні! — адгукнуўся Віктар.

Раптам грымнуў стрэл!..

(Працяг са стар. 5)

# СЛОВА ПРА ВАЛЕРЫЯ ВРУБЛЕЎСКАГА



Пазней стрыечны брат Валерыя Врублеўскага пісаў Балеславу Ліманоўскаму (вядомы сацыяліст-гісторык, удзельнік парыжскага з'езду ППС у 1892 годзе): „Валерый Врублеўскі сярод патрыётаў прадстаўляўся як радыкальны дэмакрат, быў за падтрыманнем беларускай нацыі".

Вядомы гісторык Ежы Барэйша ў сваёй кніжцы пра Врублеўскага піша: „Каліноўскі і Врублеўскі разам з Феліксам Ружанскім, Станіславам Сонгінам і Іахімам Грынявецкім пачалі выдаваць рэвалюцыйную газету для беларускіх сялян — „Мужыцкую праўду". На трэцім экземпляры газеты стрыечны брат Валерыя адзначыў: „Пісаў Валерый Врублеўскі".

Студзеньскае паўстанне, адным з правадыроў якога на Літве і Беларусі быў Валерый Врублеўскі, было накіравана супраць цёмнай рэакцыі Мікалая І. Адклікалася яно да славянскіх братэрскіх сувязей усіх прыгнечаных народаў, а таксама і рускага. Адклікалася яно голасам „Мужыцкай праўды" і да беларускага мужыка, тлумачачы, што атрымае ён зямлю і свабоду, калі стане ў радах польскага вызваленчага руху, які нясе вызваленне ад царызма ўсім прыгнечаным.

Ежы Барэйша падае добра ўдакументаваны воблік Валерыя Врублеўскага — чалавека, які ў народнай беларускай рубашцы раскідае начамі па загонах лісткі „Мужыцкай праўды", каб людзі рана знайшлі іх і прачыталі.

*Вера Леўчук*

---

**Jerzy W. Borejsza. Patriota bez paszprtu. Czytelnik. 1970, ss. 256. Cena zł 20.**

УВАГА, ЖЫХАРЫ СЯМЯЦІЧ — БАЦІКАЎ!

# ХТО ВЕДАЕ...?

У нашую рэдакцыю звярнулася Камэнда харугві ЗГП з просьбай апублікаваць пісьмо, якое Камэнда атрымала з Камітэта маладзёжных арганізацый БССР. Вось яго змест:

Паважаныя таварышы!

У Камітэт маладзёжных арганізацый Беларускай ССР звярнуўся былы партызан-каўпакавец тав. Багрымовіч Васіль Іванавіч з просьбай даведацца пра месца гібелі трох адважных разведчыкаў з партызанскага аб'яднання Каўпака.

У 1944 годзе дывізія імя С. А. Каўпака вяла баі з фашысцкім акупантам на тэрыторыі Польшчы. Атрад разведчыкаў, выконваючы заданне камандавання дывізіі, затрымаўся на адпачынак на хутары Сямяцічы — Бацікі, Беластоцкага ваяводства. Вечарам на хутар уварваліся гітлераўцы. Тры разведчыкі — Васіль Румін, Павел Іваноў, Пятро Бугрымаў — аказаліся акружанымі ў доме, які знаходзіўся каля лесу. Дапамога сяброў была беспаспяховай, паколькі сілы былі няроўныя. Забілі кулямётчыка Васю Руміна. Ранілі ў нагу Паўла Іванова. Фашысты, страціўшы надзею захапіць партызан жывымі, падпалілі дом. Адважныя разведчыкі не здаліся. Дорага прыйшлася гітлераўцам смерць трох партызан. Больш дваццаці забітых і столькі ж раненых вывезлі яны з хутара. Фашысты нялюдска распраўіліся з мясцовымі жыхарамі. Цудам выратавалася гаспадыня згарэўшага дома. На жаль, імя і прозвішча гаспадыні нам невядомы.

Камітэт маладзёжных арганізацый БССР будзе вам удзячны, калі вы паведаміце аб сучасным жыцці гаспадыні дома, у якім у сакавіку 1944 года загінулі савецкія разведчыкі, пра месца іх пахавання і пра тыя факты гібелі разведчыкаў, якіх не ведаем.

З паважаннем

*В. Ігараў*
*старшыня Камітэта маладзёжных арганізацый*

Столькі пісьмо. Мы, з свайго боку, просім усіх пра звесткі аб гэтым факце. Асабліва звяртаемся да гарцэраў, якія вельмі многа могуць зрабіць у гэтым напрамку.

Пісьмы і звесткі, аб якіх просяць у пісьме, накіроўвайце ў адрас нашай рэдакцыі або да Камэнды харугві ЗГП у Беластоку (Komenda Chorągwi ZHP, Białystok, ul. Marchlewskiego 3/1).

*А. К.*

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

ПІСЬМО Ў ГЕНШТАБ

У 1936 годзе начальніку II аддзела (контрразведкі) генеральнага штаба чэхаславацкай арміі ўручылі дастаўленае з чарговай поштай ананімнае пісьмо. Яго аўтар прапанаваў свае паслугі і паведамляў у агульных рысах, якія звесткі ён мае. Пры гэтым невядомы не выключаў магчымасці асабістай сустрэчы. Галоўнай умовай, якую ён ставіў, было захаванне строгай тайны ва ўзаемаадносінах.

Да гэтага пісьма ў генштабе аднесліся скептычна. Аднак было вырашана, што справу варта праверыць. І вось неўзабаве паблізу чэхаславацка - германскай граніцы адбылася сустрэча з аўтарам пісьма. З-за магчымасці правакацыі акружаючая мясцовасць была ўзята пад кантроль агентамі адпаведнага аддзела генеральнага штаба.

На перагаворы прыбыў чалавек гадоў трыццаці двух. Ён паведаміў, што ён немец, і тут жа выклаў некалькі сакрэтных дакументаў. Яны датычылі структуры органаў контрразведкі гітлераўскага вермахта і гестапа ў раёне Дрэздэна. У сапраўднасці прад'яўленых дакументаў і шчырасці іх уладальніка не было падстаў сумнявацца. Невядомага інфарматара зарэгістравалі ў картатэцы чэхаславацкай разведкі як агента А-54.

Кожная сустрэча з новым агентам узбагачала дасье разведкі і чэхаславацкага генштаба рэдкай інфармацыяй. Аднойчы А-54 даставіў цэлы рад дакументаў, якія непасрэдна выходзілі з цэнтральнага ўпраўлення абвера (контрразведкі), што знаходзіўся ў Берліне. У другі раз ён перадаў схему дыслакацыі часцей чацвёртага армейскага корпуса вермахта, які быў расквартараваны ў Саксоніі, звесткі аб пагранічнай варце гітлераўскага рэйха і інш. Асабліва важнай была інфармацыя аб дзейнасці нямецкіх шпіёнаў на тэрыторыі Чэхаславацкай рэспублікі і, у прыватнасці, аб іх пранікненні ў прамысловасць краіны.

У час адной з сустрэч новы агент перадаў сувязному спіс судэцкіх немцаў — актывістаў забароненай у Чэхаславакіі нацысцкай партыі. У гэтым спісе былі мацёрыя гітлераўцы, такія, як Ота Кнааль, Эрнст Брух, Эрнст Янкоўскі, Армін Фішэр і Карл Эндл, якія сталі ў далейшым на чале судэта-нямецкай партыі, арганізаванай Генлейнам.

Даведаўшыся ў канцы лютага 1939 года аб падрабязнасцях, якія датычалі поўнай акупацыі Чэхаславакіі, Варал — такі быў прысвоен псеўданім агенту А-54 — накіраваў на ўмоўлены адрас пісьмо, у якім паведамляў, што становішча «вельмі напружанае» і таму ён сам прыбудзе 11 сакавіка ў Турнаў, дзе з ім у 7 гадзін можна будзе сустрэцца ў рэстаране вакзала.

Варал прыбыў без спазнення. Пры сабе ён меў імперскі і замежны пашпарты, выдадзеныя 18 студзеня 1939 года ландратам мястэчка Сайда ў Саксоніі на імя Паўля Ханса Штэйнберга. У замежным пашпарце была ўказана мэта падарожжа: стажыроўка ў якасці гандлёвага агента.

Варал далажыў аб маючай адбыцца акупацыі Чэхіі гітлераўцамі. Славакія, паводле яго слоў, павінна быць аб'яўлена «суверэннай дзяржавай».

«Наш агент, — пісаў пазней маёр Штранкмюлер, — быў настолькі добра паінфармаваны, што змог паведаміць мне ўсю праграму маючыхся адбыцца нямецкіх дзеянняў на перыяд з 12 па 14 сакавіка»...

(Працяг будзе)

